 

# Сяброўства старых

«Калі ўчора нашым абавязкам было быць ворагамі, дык сягоння наша права — быць братамі».

Гэты вядомы верш Карла Цукмайера на нямецкай мове прадэкламаваў прэзідэнт Францыі дэ Голь, калі ў час свайго тыднёвага візіту ў Заходняй Германіі сустрэўся са слухачамі Акадэміі Камандзіраў Бундэсверы. І чаго ж толькі ён там не нагаварыў? А вось самы пачатак:

«...Хачу выказаць тое радаснае пачуццё, якое выклікае ў мяне сустрэча з Вамі. Лічу гэта для сябе гонарам».

І гэтыя словы, зрэшты, як і ўсе іншыя свае прамовы, дэ Голь гаварыў на нямецкай мове.

Уяўляю, як цудоўна адчувалі сябе старыя і маладыя афіцэры заходненямецкай арміі, выхаваныя на традыцыях кайзераўскага і гітлераўскага Вермахта. Вось прабачаліся ім іх грахі самім прэзідэнтам дзяржавы, якая за кароткі гістарычны перыяд (1870—1940 г.) перажыла трохразовую агрэсію, акупацыю і тэрор. Генерал дэ Голь не толькі прабачаў грахі адвечным ворагам французскага народа, але і прапанаваў таксама вечную дружбу, узаемаабарону, як і супольнасць капіталаў у інтарэсе, зразумела, капіталістаў.

Шасцідзённы рэвізіт прэзідэнта Францыі ў Заходняй Германіі па афіцыйнаму запрашэнню прэзідэнта Любке меў перш за ўсё прапагандны характар. Дэ Голь, як аказваецца, вышэй свайго гонару ставіць вялікадзяржаўныя амбіцыі Францыі, шукае ад бонскай дзяржавы падтрымкі і дапамогі для рэалізацыі сваіх намераў. Знаходзіць тут поўнае спачуванне, бо і Заходняя Германія, кіруемая Адэнауэрам, усімі сіламі імкнецца павысіць сваю ролю ў т. зв. заходнім свеце. Два старыя — 72-гадовы дэ Голь і 86-гадовы Адэнауэр — хочуць мець атамную зброю і рашаць аб яе прымяненні. Хочуць стаць правадырамі ўсёй Заходняй Еўропы.

— Калі б, — кажуць абодва старыя, — у рэалізацыю гэтай праграмы ўключылася і Вялікабрытанія, дык нічога ўжо нам не было б патрэбна да шчасця.

Усе гэтыя разумовыя вывады з'яўляюцца пачаткам, а адначасова і канцом супярэчнасцей унутры блока НАТА. Мэта гэтых вывадаў відавочная: аказаць максімальны націск на тых саюзнікаў (ЗША), якія недастаткова хутка спяшаюцца з перадачай двум старым атамных бомб ды, прытым, не хочуць бачыць гэткай «еўрапейскай еднасці, якая пазбаўляла б іх (ЗША) палітычных і эканамічных пераваг і прывілегій».

Пакуль што старыя палітыкі — дэ Голь і Адэнауэр — яднаюцца ў адзіноцтве. Небяспечным для міру з'яўляецца такое франка - германскае брацтва, якое адбываецца ў ваяўнічым настроі.

У супольным французска - заходненямецкім камюніке, апублікаваным пасля заканчэння афіцыйных перагавораў паміж дэ Голем і Адэнауэрам, паведамляецца аб «гарачым прыёме, з якім сустрэўся генерал дэ Голь... што з'яўляецца доказам прыхільных адносін насельніцтва (Заходняй Германіі) да франка - нямецкага яднання, якое становіцца ўжо рэчаіснасцю».

Цікава, ці ў той час падобныя пачуцці выяўляе і французскае насельніцтва, якое ў сваім друку чытала поўныя «братэрскіх» уздымаў паведамленні з Бон? Пэўнае святло на апінію французаў у гэтай справе пралівае карэспандэнцыя амерыканскага журналіста Кросбі Нойес, змешчая на старонках «Эвенінг Стэр»:

«Нялёгка апісаць рэакцыю французаў на гэтыя падзеі, — сцвярджае аўтар. — Усё, што можна сказаць, гэта тое, што від французскага прэзідэнта, выступаючага з прамовай да немцаў на іх роднай мове і ўсхваляючага іх жа як вялікі народ, у многіх французаў выклікае, проста кажучы, агіднасць».

Той самы журналіст так піша далей: «Калі ў сапраўднасці існуе, як цвердзіць дэ Голь, «вялікая хваля дружбы» у душы і сэрцы французскага люду, дык ваш карэспандэнт не змог яе выкрыць».

Коратка кажучы, французскі народ мае лепшую памяць і арыентацыю ў заходненямецкай сітуацыі, і таму яшчэ далёкая дарога да «брацтва» з Заходняй Германіяй, да якога так моцна імкнецца дэ Голь.

**УЛАДЗІМІР ЛАЗІНСКІ**

## ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ СМЕРЦІ ЎЛАДЫСЛАВА СЫРАКОМЛІ

# ПАЭТ ДВУХ НАРОДАЎ

Надарваўся знясілены хваробай лёгкіх і жыццёвымі нягодамі арганізм паэта. Памёр Уладыслаў Сыракомля ва ўзросце 39 год. Малы, цесны панадворак дома Бабятынскіх на былой Каралеўскай вуліцы ў Вільні запоўніўся 15 верасня 1862 года людзьмі, якія прыйшлі развітацца з любімым паэтам. Нядаўна, перагортваючы яго лісты да Юзэфа Крашэўскага ў Ягелёнскай бібліятэцы ў Кракаве мне трапіла ў рукі картачка, пакрытая



Партрэт Уладыслава Сыракомлі са збораў былога Таварыства сяброў навук у Вільні. Аўтар партрэта — Адам Шэмэш.

няроўным почыркам. Відаць, аўтар пісаў яе дрыжачай рукою, якая адмаўляла ўжо паслушэнства. Гэта быў апошні ліст Сыракомлі да польскага пісьменніка. Паэт звяртаўся з просьбай прысладь яму пэўную колькасць лыжак, нажоў і вілак варшаўскай фірмы «Норблін». Пад тэкстам знаходзіцца кароткае паясненне, зробленае невядомай рукою, што ліст пісаўся за гадзіну перад смерцю...

Сыракомля... Яго творчасць — непаўторная для нас з'ява ў польскай літаратуры. У яе гісторыі не было мусіць пісьменніка, якога б склад думак, светаадчуванне, увесь духоўны бок жыцця з'яўляліся б больш блізкімі беларускаму чытачу, чымсьці польскага лірніка. Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Адам Гурыновіч, Канстанцыя Буйла, Янка Купала — вось паэты, якіх пакарыла сваёй абаяльнасцю Сыракомлева муза. Ахінутыя матывамі і ідэямі гэтай творчасці, яе грамадзянскім пафасам і народнасцю, беларускія паэты працягвалі лепшыя традыцыі свайго духоўнага настаўніка. Невыпадкова сёння гісторыкі беларускай літаратуры згодна адзначаюць, што яе рост і станаўленне ў дакастрычніцкі час адбываўся пад сільным уздзеяннем Сыракомлі. Пераклады, наследванні і запазычанні — гэта формы, у якіх праяўлялася сувязь беларускіх творцаў з паэзіяй аўтара «Дэмбарога». Гісторыя паскупіла нам іншых доказаў, пачэрпнутых са штодзённага жыцця, якія б сведчылі аб адносінах лепшых прадстаўнікоў беларускага грамадства да Сыракомлі. Многія факты беззваротна ўжо адыйшлі ў мінулае. І таму кожны такі след уяўляе сабою для нас проста неацэнную вартасць. Вось на старонках віленскай газеты «Кур'ер літоўскі» ад 1912 года знаходзім карэспандэнцыю Напалеона Роўбы, які апісвае нам экскурсію мясцовай беларускай і польскай інтэлігенцыі ў Барэйкаўшчызну, дзе ў 1853 — 1856 гадах пражываў Сыракомля. Каштоўным з'яўляецца тое, што ў групе экскурсантаў знаходзіўся Янка Купала, а таксама прафесар Медыцынскай Акадэміі ў Беластоку Вітальд Славінскі, які памёр у мінулым тыдні. Спачатку ўся кампанія наведала заўсёды гасцінны дом бацькоў В. Славінскага ў Кене каля Лаварышскай пушчы, а пасля ўжо адправілася ў Барэйкаўшчызну. Аўтар карэспандэнцыі апісвае любімы стол Сыракомлі, зроблены з млынавага каменя, які знаходзіўся ў садзе. Аказваецца, у 1897 годзе пры ўдзеле Францішка Багушэвіча, як адзначае Н. Роўба, гэты стол быў тут захаваны і акружаны апекай. У «Кур'еры літоўскім» чытаем: «У садзе аглядаем стол з млынавага каменя з часоў паэта, урэшце месца, дзе стаяў калісь драўляны флігель, у якім пражываў аддалены прыяцель і таварыш паэтычна - гістарычных прац Сыракомлі — Вінцэнт Каратынскі...

Моладзь шпарка занялася пляценнем вянкоў з палявых кветак і дубовых лісцяў, якія прыносяць паненкі, а малады беларускі паэт Янка Купала аплятае імі і сам стол і яго падножжа. Пасля моладзь разбягаецца і даслоўна купаецца ў густой траве і лугавых кветках, у цені раскідзістых яблынь і стройных груш.»

У гэтым жа самым годзе, якраз з выпадку пяцідзесяцігоддзя з дня смерці Сыракомлі, Янка Купала прысвяціў яму цудоўны верш п. з. «Лірнік вясковы», дзе выявіў сваю бязмежную любоў да польскага паэта:

Выліць думку хачу —<br>
хай снуе ў бязмеры —<br>
Думку - памяць, што<br>
ў сэрцы залегла.<br>
Аб той зорцы, што некалі<br>
з добрай верай<br>
Над зямелькай яснела<br>
і збегла.

Гэты твор з'явіўся ў жнівеньскім нумары віленскага часопіса «Літва і Русь» побач з артыкулам аб паэце Юзэфа Вежынскага.

Блізкасць беларускіх творцаў да паэзіі Сыракомлі тлумачым шмат якімі прычынамі. Перш за ўсё шчыльнымі сувязямі яго паэзіі з наднёманскім фальклорам, прыязнымі адносінамі лірніка да Вінцука Дуніна - Марцінкевіча, ды і самой беларускай творчасцю Сыракомлі, які пакінуў у сваёй творчай спадчыне рад вершаў на гэтай мове. Адзначым, што менавіта яго пяру належаць артыкулы аб Дуніну-Марцінкевічу, уяўляючыя сабою першае сур'ёзнае даследванне творчасці аўтара «Гапона».

Перад намі ляжыць яшчэ аблогам ненапісаны раздзел, якому мы маглі б даць загаловак: «Уладыслаў Сыракомля і беларуская літаратура». Гэта вялікі, неаплочаны доўг польскаму песняру. Стагоддзе з дня заўчаснай смерці Сыракомлі дае нам аказію высока ўзняць яго творчасць, адзначыць неацэнны ўклад у справу збліжэння польскай і беларускай літаратур. Нашыя два народы з аднолькавай удзячнасцю ушаноўваюць памяць Уладыслава Сыракомлі, які не ведаў нацыянальных розніц. які спалучыў у сабе ўсё тое, што добрае і светлае.

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

# ФУТБОЛ

**Становішча на 10 верасня**

### I ЛІГА

Polonia — Lechia 3:0, Lech — ŁKS 0:0, Arkonia — Górnik 1:3, Gwardia — Wisła 1:0, Stal — Pogoń 2:1, Ruch — Zagłębie 1:1.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Górnik | 10:0 | 18: 4 |
| 2. Polonia | 8:2 | 15: 6 |
| 3. Zagłębie | 6:4 | 8: 5 |
| 4. Stal | 6:4 | 6: 4 |
| 5. Legia | 5:3 | 5: 1 |
| 6. Ruch | 5:5 | 7: 8 |
| 7. Lech | 5:5 | 5: 6 |
| 8. Gwardia | 5:5 | 6:10 |
| 9. Wisła | 4:6 | 8: 6 |
| 10. Pogoń | 4:6 | 9.11 |
| 11. Lechia | 4:6 | 2: 9 |
| 12. ŁKS | 3:7 | 2: 9 |
| 13. Odra | 2:6 | 3: 6 |
| 14. Arkonia | 1:9 | 4:13 |

### III ЛІГА

| | | |
|---|---|---|
| 1. Mazur Ełk | 10:0 | 29: 3 |
| 2. Gwardia B-stok | 7:3 | 21: 8 |
| 3. Tur Bielsk Podl. | 7:3 | 14:11 |
| 4. ZKS Zambrów | 6:4 | 12: 9 |
| 5. Skra Czarna B-cka | 5:3 | 8: 9 |
| 6. Włókniarz B-stok | 5:5 | 11:10 |
| 7. Wigry Suwałki | 4:6 | 10:14 |
| 8. Husar Nurzec | 4:6 | 8:15 |
| 9. Sokół Sokółka | 4:6 | 8:16 |
| 10. ŁKS Łomża | 3:7 | 7:11 |
| 11. Warmia Grajewo | 2:8 | 9:21 |
| 12. Pogoń Łapy | 1:7 | 4:14 |

### КЛАС «А»

#### I падгрупа

| | | |
|---|---|---|
| 1. Ognisko B-stok | 10:0 | 18: 5 |
| 2. Puszcza Hajnwóka | 8:2 | 26: 9 |
| 3. Gwardia B-stok | 8:2 | 22: 6 |
| 4. Cresovia Siem. | 5:5 | 8:12 |
| 5. LZS Szepietowo | 5:5 | 10:20 |
| 6. Jagiellonia B-stok | 4:6 | 16:11 |
| 7. Żubr Białowieża | 4:6 | 11:14 |
| 8. LZS Uhowo | 3:7 | 11:14 |
| 9. Tur Turośń Kość. | 2:8 | 8:25 |
| 10. Husar Nurzec | 1:9 | 14:28 |

#### II падгрупа

| | | |
|---|---|---|
| 1. Cresovia Gołdap | 8:0 | 17: 6 |
| 2. Mazur Ełk | 7:1 | 9: 5 |
| 3. Orzeł Kolno | 7:3 | 17: 8 |
| 4. Promień Mońki | 6:4 | 10:11 |
| 5. Wissa Szczuczyn | 5:3 | 11: 6 |
| 6. Wigry Suwałki | 3:7 | 7: 12 |
| 7. Czarni Olecko | 2:6 | 8: 9 |
| 8. ŁKS Łomża | 2:6 | 9:13 |
| 9. LZS Suchowola | 0:10 | 5:23 |

### ЧЭМПІЯНАТ СССР

#### I падгрупа

Жальгірыс — Шахцёр 1:1, Лакаматыў — Кайрат 2:0, Спартак Ер — Дынама К 1:2, Малдова — Даўгава 1:0, Шахцёр — Жальгірыс 6:0.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Дынама К | 30:6 | 41:18 |
| 2. ЦСКА | 27:9 | 28:8. |
| 3. Шахцёр | 21:11 | 31:19 |
| 4. Малдова | 19:15 | 24:20 |
| 5. Зеніт | 18:16 | 29:20 |
| 6. СКА | 17:19 | 29:25 |
| 7. Кайрат | 14:20 | 14:19 |
| 8. Лакаматыў | 13:23 | 17:27 |
| 9. Даўгава | 11:25 | 14:27 |
| 10. Спартак Ер | 11:25 | 14:31 |
| 11. Жальгірыс | 9:23 | 10:37 |

#### II падгрупа

Спартак М — Нафтавік 3:0, Дынама М — Кр. Саветаў 1:1, Авангард — Тарпеда К 1:0, Пахтакор — Дынама Л 1:0, Беларусь — Тарпеда М 2:0, Спартак — Дынама Тб 0:2.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Дынама Тб | 24:12 | 28:15 |
| 2. Тарпеда М | 22:12 | 37:18 |
| 3. Дынама М | 22:12 | 24:14 |
| 4. Спартак М | 21:13 | 35:19 |
| 5. Пахтакор | 21:15 | 20:19 |
| 6. Нафтавік | 17:19 | 23:23 |
| 7. Беларусь | 16:20 | 18:20 |
| 8. Авангард | 15:21 | 24:13 |
| 9. Дынама Л | 13:23 | 13:35 |
| 10. Кр. Саветаў | 12:24 | 20:29 |
| 11. Тарпеда К | 11:23 | 17:33 |




## Ашаламляючая вестка




5 ліпеня 1943 года берлінскае радыё паведаміла аб наступленні немцаў пад Курскам.

Глянуўшы на карту, Еверс задаволена ўсміхнуўся; так, якраз тут і на яго думку трэба было пачынаць аперацыю, калі мець на ўвазе і канчатковую мэту-шлях на Маскву. Ён пазваніў ў штаб і загадаў дыжурнаму паведаміць афіцэраў, каб сёння яны былі ў параднай форме, пры ўсіх ардэнах і медалях, потым узяў паперу і склаў план прамовы

193

пра гістарычную важнасць пачатай аперацыі. З гэтай прамовай генерал вырашыў выступіць у казіно перад афіцэрамі.

Але выступіць з гэтай прамовай Еверсу не пашчаслівілася. За паўгадзіны да таго, як ён меў ехаць у штаб, дыжурны тэлефонам паведаміў.

— На сямнаццаты штуцпункт наскочыў вялікі атрад макі, які намагаўся прарвацца да аб'екта, што ахоўваецца. Обер-лейтэнант Фауль просіць неадкладнай дапамогі.

Еверс разгубіўся. Ён прывык, што макі часта рабілі нападзенні на патрулёў і афіцэраў, але каб вялікім атрадам яны наскочылі на ўмацаваны пункт, — гэтага яшчэ не было.

Пасадзіўшы дзве роты на аўтамашыны, генерал у суправаджэнні начальніка штаба, Лютца і Гольдрынга панёсся да Пантэю, каб самому кіраваць аперацыяй. Але салдаты, што прыбылі на дапамогу Фаулю, нават не ўступілі ў бой. Уся каманда штуцпункта разам з обер-лейтэнантам Фаулем загінула.

Не паспелі салдаты пахаваць забітых, як са штаба прыімчаў матацыкліст з новаю весткай: макі напалі на ўзвод егераў, які разам з эсэсаўцамі ахоўваў перавал, выбілі ахову з пазіцый і прымусілі адступіць з гор.

Гэта ўжо было падобнае на вайну. Еверс вярнуўся ў Сан-Рэмі, каб пачуць паведамленне пра яшчэ два нападзенні.

194

Парадныя мундзіры, у якіх сустрэлі афіцэры генерала па яго вяртанні, мелі ў гэтых умовах зусім недарэчны выгляд.

Вечарам да Генрыха зайшоў Кубіс.

— Я прыйшоў да вас, барон, каб паскардзіцца на генерала Берттольда, — жартоўна пачаў Кубіс яшчэ з парога. — Калі ён агітаваў мяне ехаць у Сан-Рэмі, ён абяцаў мне адпачынак. А я трапіў ў абставіны, якія нагадваюць мне далёкую Беларусь.

— Затое маеце прыемныя навіны з усходняга фронту, — кінуў Генрых.

— Прыемныя? Вы сапраўды такой думкі?

— Хіба вы не чулі радыё?

— Якраз таму, што слухаў. Вы не франтавік, барон, а разведчык. Калі вам гавораць, што за дзень ударная група прасунулася з баямі на чатыры кіламетры, што гэта значыць, па-вашаму?

— Што праціўнік адыходзіць, а мы наступаем!

— Эх, не было вас у першыя дні вайны! Вы б тады ведалі, што значыць наступленне. Але да д'ябла ўвесь гэты усходні фронт! Я прыйшоў да вас зусім у іншай справе. Ці не павячэраем мы з вамі, Гольдрынг?

— Прызнацца, настрой ў мяне зусім не такі, каб ісці ў рэстаран...

— Ну, тады... Тут я прынёс распіску на пяцьдзесят марак. Усяго на пяцьдзесят, барон! Вось, разам з усімі папярэднімі за мною будзе шэсцьсот двац-

195



 

## У БЕЛАСТОЦКІМ ПАДПОЛЛІ

# ЗАСТАЛОСЯ ПЯЦЬ МІНУТ...

Восенню 1930 года Дварчанін, Валынец і Грэцкі сядзелі у гродзенскай турме, арыштаваныя ў час мітынгу у Ячне, дзе адбываўся царкоўны фэст (цяпер Дуброўскі павет). Як былыя беларускія паслы яны зноў кандыдавалі ў новы сейм, выбары якога былі вызначаны на вясну наступнага года.



Піліп Кізевіч

Актывіст КПЗБ Алесь Абрамовіч-Гайко, адказны па лініі выбарчай акцыі, не скрываў сваёй заклапочанасці.

— Выбарчыя спісы трэба прыхаваць у надзейнае месца. Дэфа усё зробіць, каб перахапіць іх і знішчыць.

Піліп Кізевіч запытальна паглядзеў яму ў твар:

— Няўжо напалі на след!? — на момант падумаў аб сваёй кнігарні. Куткі — закуткі.

Прайшло некалькі дзён. Аднойчы раніцай, не даходзячы да кнігарні, якая знаходзілася пры вуліцы Мяшчанскай, нехта аклікнуў:

— Пане Кізевіч! — на тратуары стаяў знаёмы яўрэй - штэпар. — У маім доме паліцыя! Чакаюць Вас, калі адчыніце кнігарню. Я вышаў праз кухонныя сходы.

Піліп умомант крутнуў у бакавую вулічку. На кватэру сястры Марысі ўбег не адчуваючы пад сабою ног.

— Што сталася, Піліп? — пабялела.

— Мяне арыштуюць. Перадай Абрамовічу, што спісы знаходзяцца у жалезным карабку, схаваным у складзе дроў.

Пад кнігарню вярнуўся ў чвэрць па восьмай. Паволі зняў штабу з дзвярэй, адчыніў.

Неўзабаве ўвайшоў паліцыянт, а з ім два шпікі. Прадставілі загад рэвізіі і арышту. Разгублена прабег вачыма задрукаваныя паперкі. Не давала спакою думка: «Як павядзе сябе адна літоўка з Парэччаў, кандыдатка ў паслы, якая прыдзе на яўку ў $8^{30}$?!»

Прыходзіць яна пунктуальна.

— Добры дзень.

— Добры дзень. Калі ласка, што пані трэба?

Шпікі не адварочваюцца, заўзята рэвідуюць паліцы з кніжкамі. Паліцыянт стаіць ля ўваходу. А яна не можа з сябе выціснуць слова.

— Пані пісьмовай паперы? Лепшай, горшай? — Кізевіч бярэ канверт, кладзе аркуш паперы і падае ёй. — Плаціце пяць грошай.

Дрыжачымі пальцамі развязала хустачку, заплаціла. Выйшла.

— Ідзем. Ключы вазьміце з сабою, — шпік строга насупіў бровы.

Ля суседняй брамы стаяў той знаёмы яўрэй-штэпар.

— Перадайце жонцы, каб апячатала кнігарню, — папрасіў яго Кізевіч.

— Хітры які, — замармытаў паліцман.

На другі дзень, рана, жонка прынясла прадуктовую пачку. Кізевіч не ведаў аб тым, што яе назад ужо не выпусцілі. Арыштавалі. А 3 і 4-охгадовых дочак Лілю і Лену, з якімі разам прышла, дэфензіўшчыкі выкінулі на вуліцу. Толькі пад вечар дайшлі яны да кватэры цёткі і расплакаліся пад дзвярыма — не маглі дастацца да клямкі.

Тым часам на допыце шпік пырскаў слінаю:

— Паслоў сваіх захацелі!? Не выйдзе! Чуеш!?

— Нічога ваш інфарматар не ведае. Я гэтымі справамі не займаюся, — адпараваў Кізевіч. «Адкуль такія дакладныя інфармацыі маюць?» — думаў. Гартаў у памяці розныя факты.

* * *

Выбарчая камісія знаходзілася ў памяшканні гродзенскага акруговага суда.

Сёння, да 12-ай гадзіны дня, апошні тэрмін здачы выбарчых спісаў.

Шпікі шныпраць па цёмным калідоры. Камуністы, пэўна, паспрабуюць скласці свае спісы. О, да гэтага нельга дапусціць. Перахапіць іх пасланца! Час ад часу праходзяць наведвальнікі. Стары дзед з сівою барадою, у падпаясанай світцы пытае пра нейкага адваката. Шпікі паціснулі плячыма і накіраваліся да акна. Закурыць. Канец дзяжуру. Ужо за 5 мінут 12-ая гадзіна.

— Вы, сукінсыны, сабе курыце!? — каршуном накінуўся на іх суддзя з выбарчай камісіі. Не бачыце, што камуністы склалі ўжо спісы!

На ніжнім паверху знайшлі ў кутку світку і пояс. На партэры валялася штучная барада і доўгія валасы.

* * *

За дзвярыма пачулася лаянка. Скрыгатнуў у замку ключ. Піліп Кізевіч насцярожыўся. У камеру ўварваліся з пісталетамі ў руках дэфензіўшчыкі Паўтарэцкі, Скірмунт, Шока. Злосна саплі.

— Што? Нашы здалі выбарчыя спісы? — Піліп іранічна ўсміхаўся. Дзякую за прыемную навіну.

Скірмунт ступіў наперад. Кізевіч схапіў за табурэтку і ўскочыў на нары.

— А ну!! Хто першы? — замахнуўся.

— Яшчэ пагаворым, — завылі.

Бразнулі дзвярыма, пайшлі. Ведалі, што Піліп лёгка насіў дзевяціпудовыя цяжары на трэ-

(Працяг на стар. 4)

## У ТЭАТРЫ «СВЕРШЧ»

### ЗАЧАРАВАНЫ БУБЕН

Беластоцкі тэатр лялек «Свершч» паставіў «Чарадзейскі бубен» у інсцэнізацыі **Збігнева Капалькі.** Гэта казка апрацавана паводле **Льва Талстога.**

Рэжысёр **Зенон Хайноўскі**

Сцэнаграфія — **Інэз Кузкэ**

Музыка — **Ежы Дабжанскі.**

Гэтая добрая пастаноўка прызначана для школьнікаў і напэўна будзе ім вельмі падабацца. Але не толькі. Спадабаецца таксама малым дзецям і дарослым людзям. Цудоўныя лялькі, цудоўная музыка і танцы (лялек, зразумела).

І цудоўны змест. Вось ён у вялікім скарачэнні.

Амільян, касячы траву, спатыкае жабку, якая пераўтвараецца ў прыгожую дзяўчыну Глафіру. Глафіра, будучы чарадзейкай, у міг будуе домік, у якім разам пачынаюць жыць. Але злы цар, убачыўшы Глафіру, закахаўся ў яе і хоча мець яе ў сваім палацы. Каб пазбыцца Амільяна загадвае яму выконваць усё новыя цяжкія працы: за адну ноч збудаваць царкву, за адну ноч зрабіць рэчку з караблямі. За Амільяна ўсё гэта робіць Глафіра, якая не церпіць цара. Апошняе царскае заданне прымусіла Амільяна далёка вандраваць у пошуках «таго, сам не ведае чаго».

Гэтае «тое» аказалася зачараваным царскім бубнам, які памагаў яму трымацца пры ўладзе. Калі Амільян зайграў на бубне, войска і ўсе прыяцелі цара пакінулі і пайшлі за Амільянам. Потым бубен быў разбіты і кінуты ў рэчку. Цар страціў сілу і застаўся сам. Амільян і Глафіра зажылі спакойна.

вл.



цаць. Згодзіцеся, што гэта не так многа! Нудна, Гольдрынг! Паверце мне. Людзі сталі нуднымі. Нават ваша пасія, барон!

— Якая пасія?

— Не прыкідвайцеся наіўным, фон Гольдрынг!

Генрых абражана змоўк.

— Упершыню я вас бачу сярдзітым, барон. А пра вашы сімпатыі да мадэмуазель з рэстарана я даведаўся выпадкова, калі вырашыў арыштаваць яе.

— Арыштаваць Моніку? За што?

— Згодзіцеся, барон, калі мы перахопліваем тры лісты гэтай прыгажуні і ва ўсіх трох мова ідзе пра дрэнную пагоду, хоць пагода стаіць цудоўная, дык мы можам пацікавіцца, адкуль такое зацікаўленне ў мадэмуазель да метэаралогіі?

— І гэтага, па-вашаму, дастаткова, каб арыштаваць дзяўчыну?

— Да гэтага дадалося б тое, што яна сказала б на допыце... Але Мілер, даведаўшыся пра мой намер, не згадзіўся са мною, спасылаючыся на вашы сімпатыі да мадэмуазель. Вас, Гольдрынг, ён чамусьці пабойваецца!

Атрымаўшы пяцьдзесят марак, Кубіс выйшаў з нумара.

Паведамленне Кубіса вельмі ўсхвалявала Генрыха і ён неадкладна пайшоў да Монікі. Застаў яе ў сваім пакоі.

— У мяне ёсць справа, Моніка, да гэтага не зусім прыемная.

— Кажыце, толькі без доўгіх уступаў.

— Добра! Без уступаў, дык без уступаў. Толькі спачатку адно пытанне: вы маглі б кудысьці знікнуць, хоць бы на нейкі час?

Моніка збялела.

— І як хутка гэта трэба зрабіць?

— Пакуль я тут, небяспека не такая ўжо вялікая. Але я магу паехаць кудысьці на доўгі час, а то і зусім, і тады...

Генрых не сказаў, што будзе тады.

— Вы сапраўды можаце паехаць адсюль... назаўсёды? — спытала ціха Моніка.

— Я вайсковы, а вайсковых не пытаюць, дзе яны хочуць быць.

— Генрых, мы уцячэм адсюль разам, — сказала Моніка проста, так проста, нібы яны не раз гаварылі пра гэта. — Мы ўцячэм у горы, там ніхто нам не страшны! Уцякайма заўтра ж! Дык і вас могуць выкрыць! Вы ж не фашыст. Вы наш.

Моніка палажыла рукі на плечы Генрыха.

— Каб вы ведалі, Генрых, як я спалохалася, калі ўпершыню зразумела, што вас палюбіла. Я мала не памерла з гора! Потым я зразумела, што вы наш і што таксама мяне любіце... Гэта праўда, Генрых?

— Праўда, Моніка!

— Я ведала! І ўсё ж я такая шчаслівая пачуць гэта ад вас! Мы ўцячэм у горы і ніколі, ніколі не будзем разлучацца! Праўда?

Як яна верыла ў гэта!

— Я не магу гэтага зрабіць, Моніка! — сказаў Генрых.

— Чаму?

— Я не маю права гэтага зрабіць!

— Вы не любіце мяне! — з роспачу сказала дзяўчына.

— Моніка! — Генрых сціснуў яе рукі. — Вы не павінны больш нічога мяне пытаць, бо я не змагу вам зараз нічога адказаць. Я і так сказаў за многа. Але абяцаю вам адно: калі закончыцца вайна, я прыду да вас і вы даведаецеся пра ўсё.

— Я буду чакаць, Генрых.

— І тады мы не разлучымся ніколі. Але зараз вы павінны выехаць адсюль!

— Добра, я параюся са сваімі сябрамі.

* * *

У той самы час Мілер хадзіў па сваім кабінеце, абмяркоўваючы той крок, які ён вырашыў зрабіць, хоць і баўся.

Яго неймаверна прыгнятала поўная залежнасць ад фон Гольдрынга. З таго часу, як гэты самаўпэўнены барон даў яму зразумець, што ён ведае, каго падставіў Мілер замест Поля Шанье, начальнік службы СД страціў спакой. Шафёра давялося лік-

(Працяг на стар 7)

196 197 198

 

# Каб выдатна Пятрок вучыўся...

(Працяг са стар. 1)

ных будынках. Да канца першага месяца новага школьнага года адкрые свае дзверы яшчэ 8 школ. Разам гэта прынясе Беластоцкаму ваяводству каля 4 тыс. дадатковых вучнёўскіх месц. Тым часам ужо 3 верасня распачало навуку на звыш 7 тыс. вучняў больш, чымсьці ў мінулым навучальным годзе.

Вось тут і праяўляецца гэтае ўпартае «але».

Гэтае, на жаль, не зусім аптымістычнае становішча шмат палепшыцца, калі ў апошнім месяцы б. г. будуць аддадзены ў карыстанне далейшыя 13 новых школьных будынкаў. Так прынамсі абяцае Куратырыум у Беластоку. Верым і шчыра жадаем, каб гэта здзейснілася, бо тады ў школах Беластоцкай школьнай акругі было б новых вучнёўскіх месц на 2 тыс. больш, чым новых вучняў.

Гэты факт сам па сабе з'яўляецца вельмі пацяшальным, але... але нельга забыць аб тым, што зараз у пераважнай колькасці школ навука адбываецца на дзве і тры змены, што сцены класаў трашчаць ад перагрузкі, што бягучы школьны год запачаткаваў на практыцы пераход пачатковай школы ад сямі да васьмікласнай структуры, значыць, тысячы вучняў даўжэй на год будуць займаць месцы ў школах, у новапабудаваных таксама.

Вянок паслядоўнасцей можна чаргаваць, але... але гэта ні ў чым не палепшыць справы. Трэба нам яшчэ многа, вельмі многа новых школ.

* ✲ *

Нядаўна мне давялося наведаць некалькі вёсак у Сямяціцкім павеце.

**Вілянова.** Дзеці тут вучацца ў некалькіх сялянскіх хатах, а настаўнікі змушаны бегаць на лекцыі з адной хаты у другую.

**Нурчык.** Школа памяшчаецца у старым сялянскім будынку, а калі мацней павее вецер, яго халодныя языкі амаль свабодна праходзяць праз абсыпаўшыся тынк ды змуршэлыя сцены.

**Рагачы.** Школьны будынак будаваў калісь (яшчэ да вайны) прыватны прадпрыемца. Каб было таней і хутчэй даў сыры і дрэнны матэрыял. У час вайны гэты партацка збудаваны будынак прабіў яшчэ снарад. Зараз надбудоўка першага паверху выразна перахілілася на бок і зусім не прыдатная да працы, бо ў кожную хвіліну, калі мацней падуе вецер, можа рухнуць на зямлю. Усе залы нанізе трэба было падперці шматлікімі слупамі, каб столь не завалілася вучням на голавы.

Але... калі мацней падуе вецер...

Паводле новаапрацаванай сеткі, у Сямяціцкім павеце мае быць 112 пачатковых васьмікласных школ. Згодна з праграмай навучання гэтыя школы маюць даць дзіцяці, якое закончыла пачатковую школу, не толькі нейкую суму тэарэтычных ведаў, але таксама практычнае азнаямленне з асноўнымі праявамі жыцця, з асноўнай тэхнікай. Тым часам многа, вельмі многа школ у Сямяціцкім павеце (як інфармуе Інспектарат асветы) не толькі не мае памяшкання для палітэхнічнага навучання, але нават не мае дзе паставіць шафаў са звычайнымі тэхнічнымі дапаможнікамі.

І зноў ціснецца ўпартая думка: трэба будаваць!

У Сямяціцкім павеце адкрыта нядаўна дзве новапабудаваныя школы, а пяць аб'ектаў школьнага характару знаходзіцца зараз у будове, і, калі ўсё добра пойдзе, да канца наступнага года будуць яны адданы ў карыстанне.

На школьныя інвестыцыі Сямяціцкага павета прызначана ў бягучай пяцігодцы каля 14,5 мільёнаў злотых. Калі ўявіць сабе, што кошт адной тыповай сямікласнай школы дасягае ўсярэднім паўтара мільёны злотых, тады лёгка зразумець, што гэтыя інвес-

(Працяг на стар. 7)

Працяг са стар. 3

ці паверх табачнай фабрыкі.

А Алесь Абрамовіч - Гайко спакойна спаў на дыване ў кабінеце Касоўскага, шанаванага ў Гродне ўласніка млына і гандляра збожжам. Сам ён даўно выехаў з сям'ёю на курорт, пакінуўшы дом пад апеку служанкі.

Непадалёку ад будынка гандлёвай школы пры вуліцы Варшаўскай 63 у Беластоку, дзе знаходзілася акруговая выбарчая камісія, шпацыраваў Сымон Кузьмін. Да школы ўваходзілі вясковыя баба з мужыком. Гэта Марыся Сянкевіч з Тапільца і Ёзік Грэс, з Пясчанікаў. Кузьмін глыбей засунуў у кішэні рукі. Пачалося!

— Складаем беларускі выбарчы спісак.

Камісар беластоцкай выбарчай камісіі падняў ад здзіўлення брыво, пачуўшы такія словы.

— Што ж так позна? Прымаем толькі да 14-ай гадзіны, — адказаў.

## ЗАСТАЛОСЯ ПЯЦЬ МІНУТ

Марыся вымае гадзіннік.

— Засталося 5 мінут да 14-ай гадзіны, — кажа. — Прашу выпісаць квітанцыю.

Праз некалькі дзён на імя Кастуся Саловіча, старшыні беларускага выбарчага камітэта, было прыслана па пошце фармальнае паведамленне акруговай выбарчай камісіі аб прыняцці іх спіска. Паведамленне не загінула, хаця ўвесь камітэт трэці тыдзень адседжваў прафілактычны арышт.

Друкар Пружанскі меў сваю майстэрню пры вуліцы Ліповай 16.

— Ці мог бы надрукаваць выбарчыя нумаркі для беларусаў?

Пружанскі круціць. Баіцца.

— Добра заплацім, — не адступаецца Кузьмін.

Нарэшце, дагаварыліся. Заказ выканаў хутка — нават, вельмі хутка.

У бюро Акруговай Управы ТБШ пры вуліцы Сянкевіча 53 (II паверх) паявіўся Піліп Кізевіч з Гродна. Пачкі з нумаркамі былі цяжкія, як волава. Рыгор Шырма і Кузьмін наглядалі за вуліцай. Падалі знак, што ёсць шпікі. Запозна, Кізевіч цяжка ступаў па апошніх сходках. Праз шчыліну ў дзвярах заўважыў толькі, што ёсць іх трое і што якраз у гэту хвіліну аглядаюць вітрыну з тэкстыльнымі вырабамі. Жыва аб нечым размаўляюць. Мацней сціснуў пальцамі пакунак і, доўга не думаючы, проста ад парогу, ступануў вялікім крокам на тратуар. Апынуўся побач шпікаў, за іх плячыма, з пачкамі выбарчых нумаркоў у руках. Перайшоў праз вуліцу.

На прыгараднай станцыі Ласосна сустрэлі яго таварыш Зайко і Надзя Ламашэвіч. Цягнік паехаў на Гродна.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# Бельск і яго эканомія ў XVII стагоддзі

(Працяг са стар. 1)

павінна было тармазіць гаспадарчае развіццё Бельска, тым больш, што і бельскія купцы у той час у значнай меры адмаўляюцца ад далёкіх перавозак і пераходзяць на мясцовы гандаль.

### БЕЛЬСКАЕ СТАРОСТВА І ЛЯСНІЦТВА Ў XVII СТАГОДДЗІ

Змены ў гарадской гаспадарцы Бельска мелі сваю падставу ў становішчы вёскі, і ў першую чаргу на тэрыторыях, непасрэдна звязаных з горадам.

Падставай даходаў арандатараў было вядзенне гаспадаркі, заснаванай на прадукцыі збожжа. Добрае геаграфічнае палажэнне над рэкамі, прыгоднымі для сплаву, якімі былі Нарва і яе прытокі, садзейнічала пeратранспарціроўцы збожжа з месца, дзе вырасла, да пункту збыту — Гданска. Гэта давала бельскаму староству і лясніцтву вялікія магчымасці развіцця. І зусім натуральна, што яшчэ ў канцы XVI і на пачатку XVII стагоддзяў узніклі два новыя фальваркі: Грабавец над прытокам Альшанкі і Трывежа над Локніцай. Яны былі невялікія, але нягледзячы на гэта, само іх узнікненне пацвярджае жыццёвасць фальварачнай гаспадаркі незалежна ад цяжкасцей, якія пачалі тады тут даваць аб сабе знак.

Галоўнай рабочай сілай на фальварках былі сяляне, працуючыя на паншчыне. Яны мелі пастаянныя кавалкі зямлі, за якія павінны былі абслугоўваць фальварачныя землі і плаціць грашовы падатак гаспадару.

Апрача паншчынных сялян былі яшчэ «асаднікі», якія толькі плацілі грашовы падатак. Але з ростам патрэбы ў рабочай сіле на фальварках, колькасць асаднікаў змяншалася. Іх пераводзілі у паншчынных сялян, змушалі працаваць на фальварачных землях. Так на пачатку XVII стагоддзя на Бельшчыне паншчынныя сяляне павінны былі працаваць ужо тры дні ў тыдзень (у XVI ст. працавалі толькі 2 дні ў тыдзень).

У другой палавіне XVII ст., апрача названых катэгорый сялян, узнікла яшчэ адна — сяляне - выбранцы. Амаль у кожнай вёсцы было выдзелена па кавалку зямлі і аддана ў карыстанне сялянам - выбранцам. Адзіным іх абавязкам было, апрача невялікага падатку, служыць у спецыяльных аддзяленнях войска ў час вайны.



**БЕЛЬСК. Старыя дамы.** **Фота Ул. Юзвюк**

Яшчэ лепшым было становішча сялян бельскага лясніцтва. Апрача вышэй названых катэгорый сялян былі тут працаўнікі ляснoй службы: асочнікі, стральцы, пасечнікі, бортнікі.

Асочнікі і стральцы мелі асабліва малыя павіннасці: пры параўнаўча вялікіх надзелах зямлі (каля 40 га) яны былі абавязаны толькі сцерагчы лес (асочнікі) ці прымаць удзел у паляваннях (стральцы). Яшчэ ў 1662 годзе, калі арандатары патрабавалі змусіць гэтыя дзве катэгорыі сялян да дадатковых павіннасцей, афіцыйныя дакументы гавораць, што асочнікі і стральцы, апрача працы, звязанай з ляснoй службай, «вызвалены ад усялякіх падаткаў». Таксама выглядала становішча і іншых сялян, занятых у лясной гаспадарцы: пасечнікі і бортнікі плацілі толькі невялікі падатак замест ранейшай даніны мёду і воску.

Сапраўды, на думку арандатараў, працаўнікі лясной службы былі людзьмі, праца якіх не давала адміністратарам ніякага даходу. Таму ў час нарастаючага гаспадарчага крызісу, калі цяжка было арандатарам фальваркаў знайсці рабочую сілу, на гэтыя катэгорыі сялян аказваўся асабліва вялікі ціск, каб павялічыць іх павіннасці на карысць арандатараў.

Пачатак XVII ст. прынёс значнае пагаршэнне становішча фальварачных гаспадарак. Вось як паказвае становішча ў бельскім старостве люстрацыя з 1606 г.: «У гэтым старостве фальваркі вельмі апустошаныя, бо жывёла на фальварках і ў падданых паздыхала. Салдат таксама нямала шкоды нанёс, як у конях, так і ў іншых дастатках. Таму адны падданыя разбегліся, другія вельмі збяднелі і фальваркі вельмі мала зарабляюць».

Такое становішча ў старостве, падобнае да становішча ў лясніцтве, павінна было, як я пераканаўся, аказаць вялікі ўплыў на тармажэнне гарадскога гандлю і рамясла. З малымі зменамі на лепшае такое становішча цягнулася да палавіны XVII стагоддзя, калі новыя войны яшчэ больш апусташылі Падляшша.

Пашыраючыся крызіс гаспадаркі меў значны ўплыў на пагаршэнне становішча сялян. Арандатары, напэўна, не глядзелі спакойна на тое, што «фальваркі мала зарабляюць». Невядома, ці ўдалося адміністратарам поўнасцю адбудавацца пасля знішчэнняў. Гэта не было лёгкай справай: працягваліся перамаршыроўкі войск, не хапала людзей для працы. Іменна гэта падштурхвала арандатараў, каб старацца падвысіць абавязкі сялян, якія засталіся яшчэ ў вёсцы.

Зразумела, што сяляне не так лёгка згадзіліся на новае, горшае становішча. Усімі даступнымі ім сродкамі стараліся перашко-

# ГРАМНІЦА? А МОЖА...

(Працяг са стар. 1)

не Міністра ўнутраных спраў аб **абавязку** закладання громаадводаў поўнасцю ахоўваюць ад пяруноў. Бо на Беласточчыне не было выпадку, каб пярун запаліў будынак з громаадводам. А такіх будынкаў ёсць ужо на вёсках 144 980 (каля 20% усіх вясковых будынкаў Беласточчыны).

Вёскі, якія не згаджаюцца па плану рабіць, застаюцца аж на канец усяе акцыі — мо' за 5 год. Меркавалася закончыць закладанне громаадводаў на Беласточчыне ў бягучай пяцігодцы. Ды перашкоды... Перашкоды, аб якіх гаварылася. Сяляне не толькі ўсімі сіламі непадтрымліваюць акцыі, а сваім супраціўленнем, несвядомасцю спыняюць яе, тармозяць. Колькі ж часу трэба пераконваць кожнага ў тым, што ўвачавіднае і зразумелае нават школьнікам.

**Капітан Кохан** з Ваяводскай каманды пажарнай стражы сказаў мне: «Справа матэрыялу, з якога выконваецца громаадвод важная. Аднак мы можам атрымаць больш матэрыялу, чым цяпер ужываем. Была б толькі патрэба, было б толькі зразуменне ў людзей».

Ужо хутка распачнецца планаванне на наступны год. Планаванне і пераконванне, пагражанне. Як бы магла быць большая пагроза, чым агністы зігзаг над хатай. Як бы так цяжка пагадзіцца з думкай, што працягнуты над хатай і закапаны ў зямлю дрот дазволіць быць спакойным за дабро, здабытае ў поце чола. Як бы грамніца не прыдалася на што іншае (напрыклад, калі згасне электрычнае святло).

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**



 

# Крынкі — не Новая Гута

— Калі Марцінчык і далей будзе нашым аграномам, дык нічога не выйдзе! — узбунтавалася праўленне сельскагаспадарчага гуртка ў Крынках.

А таму, што ён:

— з нікім не лічыцца і робіць так, як сам спадабае. Маўляў, вы мне не начальнікі!

— спрабуе дыктаваць сваю волю ўсяму праўленню. Так мае быць і кропка!

— не прытрымліваецца ўстаноўленага парадку ўдзялення ўслуг у першую чаргу бедным гаспадарам у найманні снапавязалкі, трактара ці малацільнага агрэгата.

Інжынер Генрык Домбэк з сакольскага праўлення сельскагаспадарчых гурткоў тлумачыць:

— Гурток засеяў 27 гектараў аўса. Ураджай добры атрымаем. Плануецца пасеяць 30 гектараў жыта. Ёсць 3 машына - трактарныя камплекты, снапавязалка, малацільны агрэгат. Вось аб гэтых справах і трэба нам падыскутаваць, таварышы. Мяне не цікавяць вашы службовыя канфлікты, — дадае.

— Чаго гаварыць аб прадукцыі, калі няма персанальнай згоды, — адказалі.

— Не разумею? — здзіўляецца інжынер. Іосіф Марцінчык працуе тут усяго некалькі тыдняў, а і прытым з'яўляецца крынчанінам. Прысланы часова. — Паразумеецеся з часам, пасябруеце, як землякі...

— Дайце нам пастаяннага агранома, — перабілі.

— Марцінчык, напэўна, пастараецца выправіць свае памылкі, тады аформім яму намінацыю на пастаяннага працаўніка, — Домбэк намагаецца лагодзіць гутарку.

## Марцінчык працуе ад пару тыдняў

— Не, Марцінчыка не хочам.

— Маем цяжкасці з аграномічнымі кадрамі...

— Цяжка.

Канец размовы. У павеце маюць толькі адно выйсце — зноў падшукаць новага агранома.

Перад Марцінчыкам быў нейкі Вячорак. На працягу паўтода. Кажуць, гультаяватым удаўся ды нядбайным... Столькі ўсяго па ім успаміну і засталося.

**Размова аб лекарцы Тэрэсе Паўтарак**

Прыехала ў мінулым годзе.

Расказваюць:

Пётр Трвога, кіраўнік школы з Юраўлян, разгневаны, што урач Тэрэса Паўтарак не аказала дапамогі цяжарнай жонцы, бо якраз, мінута ў мінуту, кончыўся час прыёму ў мясцовым пункце аховы здароўя. Неспадзявана занемагло трохгадовае дзіця Ванды Дэмбко. Быў вечар. Не прыняла. Тацяну Курцэвіч з дзіцём нават за парог не ўпусціла...

Людзі гавораць усё больш і больш.

Скардзяцца, што груба адносіцца да іх.

— Прыдзеш з захварэўшым дзіцем на кватэру, а яна бзікае: навошта прыгалок гэту заразу!?

Кажуць, што надта выгоднай сталася.

— Раптоўны выпадак! Уначы. Не хоча ісці да хворага. Заўтра, моў, прывозьце няшчаснага... Да ранку і памерці можна.

Скардзяцца, што лянівая.

— Калі захоча, тады пры́ме (у службовых гадзінах).

Цяжкія абвінавачванні ў адрас маладога ўрача — вельмі цяжкія.

— Ці падпішуцца пад сваімі словамі?

— Не. Не падпішуцца.

Знайшліся аднак адважнейшыя. Не пабаяліся «задзерціся з дохтаркаю». Падпісаліся.

Прыязджалі з павету, кантралявалі. Паехалі.

У павятовым аддзеле здароўя з месца загаварылі.

— Скаргу ці якую-небудзь ананімку атрымліваем, думаеце, адкуль? З Крынак! Заўсёды з Крынак. Не з Янава, Сідры, Шудзялава... І гэтак ад даўных - давён. Пане, там і ангел чортам зробіцца (а не толькі Паўтарак).

Малады ўрач, крынчанін Мечыслаў Кузьма не захацеў працаваць у родным мястэчку. Прыняў работу ў Сідры.

— Крынкі хочуць змяняць лекараў, бы рукавічкі. А дзе ж набярэмся іх... Крынкі — не Беласток. (У Беластоку нядаўна сказалі, што Крынкі — не Новая Гута).

Крынкі незадаволеныя — шэпчуцца, шумяць.

Нядаўна, у час сесіі грамадскай рады, шырока была дыскутавана праблематыка аховы здароўя. Гаварылася таксама і аб тым, што акушэрцы Зіне Ганацкай цяжка справіцца са сваімі абавязкамі, паміма дапамогі з боку раённай акушэркі. Прадстаўнікі з сакольскага аддзела здароўя паслухалі, пасля адведалі шпіталь і рашылі, што раённая акушэрка павінна... толькі абслугоўваць хатнія візіты!? А п. Зіну «пацешылі», што месячная норма 13 нованароджаных, і намякнулі аб дадатковай аплаце 50 зл. за кожнае звышпланавае дзіця...

Было, як толькі вытрымаць, дык зрабілі яшчэ ляпей. Прыбыло бяссонных начэй, ой, прыбыло.

Памаглі, значыць.

Давер былога горада, цяпер асады Крынкі, да павятовай Саколкі моцна пахіснуўся.

**Аляксандр АНТАШЭВІЧ**

---

дзіць гэтаму. Адным са спосабаў гэтай барацьбы былі судовыя працэсы супроць арандатараў у каралеўскім судзе. Жыхары бельскага лясніцтва ўжо ад 1635 года вялі працэс з арандатарамі супроць накідвання ім новых павіннасцей.

Асаблівая роля ў гэтай барацьбе прыпала на долю стральцоў і асочнікаў з вёсак Чыжы і Давідоўцы (цяпер Давідава). Яшчэ да 1662 года арандатарам не ўдалося змусіць гэтых сялян да дадатковых павіннасцей. Толькі ў канцы XVII і пачатку XVIII стагоддзя, у час арандавання лясніцтва Браніцкім, быў прыпісаны стральцам і асочнікам абавязак плаціць падатак і працаваць у арандатара. І нават пасля гэтага арандатарам было цяжка прымушаць сялян выконваць гэтыя абавязкі. Аб вострым супраціўленні лясной службы, даходзячым да адкрытай барацьбы супроць арандатараў, сцвярджае факт, што справа гэта дайшла да вышэйшых дзяржаўных органаў. У 1784 годзе кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі прыслаў стральцам і асочнікам вёскі Чыжы ўпаміначьны ліст. У лісце да жыхароў вёскі чытаем: «...каб ніякіх бунтаў не рабілі, даніны і павіннасці, прыпісаныя правам і люстрацыямі, добра выконвалі і адбывалі паводле даўнейшага звычаю...»

Але не толькі стральцы і асочнікі, значыць, сяляне, маючыя ў пэўнай ступені прывілегіі, былі пад атакай арандатараў. Яшчэ ў горшым становішчы былі паншчынныя сяляне і асаднікі. Яны не мелі такіх праў, як першая група, а былі больш звязаны з працай на фальварку. Гэта давала магчымасць адміністратарам прымушаць іх выконваць новыя павіннасці. Аднак і гэтыя сяляне не дазвалялі на бясправныя надбаўкі ім працы.

Варта падкрэсліць салідарнасць, з якой жыхары гэтых вёсак вялі барацьбу з арандатарамі. У працэсах супроць павелічэння падаткаў і павіннасцей выступаюць звычайна ўсе разам вёскі лясніцтва і староства. Адзіны толькі раз, у 1654—1655 гадах, выступілі супроць арандатара лясніцтва Елізаветы Слушчанкі жыхары асобных вёсак: Махнатага, Збуча, Старога Корніна і Старога Беразова.

Апрача судовых працэсаў, сяляне прымянялі і іншыя метады барацьбы: уцякалі з вёскі, каму падвышаліся падаткі. Гэта было асабліва проста ў час воен, калі горш спраўляліся і так не зусім спраўныя адміністрацыйныя ўлады.

Аб прымяненні гэтага спосаба сцвярджае ўжо ўпамянуты дакумент з 1606 года у апісанні староства. Яшчэ большы адсеў людзей наглядаўся, дарэчы, дзякуючы ўцёкам сялян ад падаткаў у час воен паловы XVII ст.

Вось даныя аб колькасці насельніцтва ў некаторых вёсках лясніцтва, дзе перад войнамі паловы XVII ст. вялася барацьба з арандатарамі. У 1662 годзе ў вёсцы Старое Беразова быў толькі адзін жыхар; аб сялянах Старога Корніна той жа дакумент даносіць: «падданага у гэтай вёсцы няма ніводнага»; у вёсцы Мора толькі адзін кавалак зямлі быў засеяны, а «усе іншыя землі без людзей, пустыя».

Такое ж становішча было і ў іншых вёсках лясніцтва і староства. Прычынай гэтага былі не толькі ваенныя знішчэнні, але і ўцёкі сялян, якія пачаліся задоўга перад вайной.

Іменна такога тлумачэння патрабуе і факт, што вёскі асочнікаў і стральцоў лясніцтва, якія знаходзіліся сярод гэтых пакінутых вёсак, былі засеяныя поўнасцю, хоць дакумент гаворыць аб іх, як аб дашчэнту знішчаных. Лясная служба, якая ў барацьбе з арандатарамі змагла да 1662 года захаваць свае правы, не мела падставы, каб пакідаць свае вёскі.

### БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ КРЫНІЦЫ:


1) «Очерки истории СССР», XVII в. Москва 1955.

2) М. С. Соловьёв. «История России», т. VI, Москва, 1961.

3) J. Topolski, J. Wiśniewski. „Lustracja województwa podlaskiego” r. 1576, Wrocław.

4) „Lustracja województwa podlaskiego” r. 1606. — rękopis.

5) „Lustracja województwa podlaskiego” w r. 1662. — rękopis.

6) Metryka Koronna — rękopis.


### ПАЯСНЕННІ

ЛЮСТРАЦЫЯ — гэта апісанне стану, даходаў і павіннасцей у каралеўскіх маёнтках.

ЭКАНОМІЯ — некалькі (або больш) каралеўскіх маёнткаў, якія знаходзіліся пад супольнай адміністрацыяй, і даходы з якіх прызначаліся на ўтрыманне каралеўскага двара. Эканоміі былі створаны ў Польшчы і Літве ў XVI стагоддзі.

---

# Па той бок жыцця

Пабыўка ў выхаваўчым «закладзе» у Ганёндзы ў Сашкавым жыцці не з'явілася нечым пераломным. Вучыўся нават горш, паўтараў той самы клас. На матчыныя пісьмы адпісваў тады, калі захацелася каўбасак, апельсінаў, скаштаваць пірага. Мяса было на месцы... З-за плоту вудзілі на чарвяка курэй або на камяк хлеба гусей. Людзі скардзіліся, выхавацель злаваўся (біць забаронена!). Сабіраў усіх на дзядзінцы, пытаўся, хто зрабіў? Маўчалі, і прастойвалі так да змроку. З цемнатою распускаў на вячэру.

А рабунак садоў, а затопліванне рыбацкіх лодак на рацэ Бобра, а...

Урэшце ўсё гэта сталася прывычным. І Сашку, і яго сябрам, і выхавацелю, што адкупляў ад іх каўбаскі, апельсіны — рэдкасці, якіх не знойдзеш у гэткай «дзіры», як Ганёндз.

Сашка рос у акружэнні роўных сабе.

Мабыць, адбыў бы гэтыя два гады ганёндзскай «ссылкі», на якія засудзіў яго беластоцкі суд для няпоўналетніх, калі б не пэўнае здарэнне.

У час зімовых канікул 1959 года Генік адкрыў яму таямніцу: «У мінулую ноч цэлай зграяй абакралі склад вайсковай падрыхтоўкі Медыцынскай Акадэміі ў Беластоку. Ці хочаш зарабіць?»

Гандаль аўтаматычным пісталетам не ўдаўся. Зноў суд. І вось Сашку вязуць пад канвоем у Шчэцін — тым разам у папраўчы (а не выхаваўчы) дом. Неўзабаве перавозяць да славутай

## Сашкавы навукі

Кцыні каля Быдгашчы. Астрыглі. Далі піжаму (у ёй на вуліцу не пабяжыш). Сашка ляжыць на ложку. Вось вяртаюцца з заняткаў яго будучыя сябры. Глядзяць, бы на дзіва, і хіхікаюць. Новы!? Рыжавалосы завадыяк зрывае Сашку з шыі шаль. «Прыгожы, прыдасца,» — і забірае.

Да абеду ўрокі. Адвячоркам атрымоўвае першае заданне: прыбраць уборную. Выглянуў праз акно. Заўважыў гэта адзін з выхаванкаў і нарабіў шуму.

— Пане выхаваўца! Сашка збіраецца ўцякаць!

Убятае выхавацель, за ім выхаванкі.

— Давай сюды сукінсына, — верашчаць і б'юць дзе папала. Падае, млее.

Ноччу тыя, што білі, наладзілі пабег. Злавілі ўсіх. «Так вам і трэба,» — Сашка трыумфаваў.

Ад маці прыходзіць пачка. Распячатвае. На парозе паяўляецца выхавацель:

— Прадай каўбасу?

— Калі ласка.

— Дам сто «файкаў» (г. зн. папяросаў).

Сашка прадаў, цэлы вянок. Але «файкаў» не атрымаў. Чакае тыдзень — два тыдні. «Ашуканец!»

Казік, што спіць ля акна, уцякаў з Кцыні не раз.

— Спрабуем? — звярнуўся да Сашкі.

Спрабавалі. На світанні былі ўжо ў Быдгашчы. З цягніка трапілі проста ў рукі міліцыянтаў. «Спецы, пся юха!»

Выхавацель пеніўся, біў іх з размахам — да непрытомнасці. Таму, мабыць, Сашка мала запамятаў з гэтага выпадку... Пасля 9 дзён сядзеў у ізалятцы! На снеданне і вячэру атрымоўваў па два сухарыкі і кубку кавы, у абед — па талерцы баршчу. На другі дзень каву чамусьці пачалі падаваць не ў кубку, а ў місцы. Кіпень і без... лыжачкі. Вылівалася на грудзі.

Саша адчувае сябе бязмерна паніжаным. Зрываецца праз сон. На набітыя сінякі пад вачыма сплываюць слёзы. Плача і кусае пазногці. Недзе ў глыбі душы запякаецца адпомста на гнеўным агні. Думае над тым, што будзе вырабляць з выхавацелем, калі вырасце вялікім мужчынай і сустрэне яго на лясной сцежцы, у чыстым полі ці ў глухім закавулку?! У вачах міганіць шалёная гарачка. Пачынае марыць, снаваць планы на будучыню. Планы, неразлучным элементам якіх з'яўляецца страшная смерць выхавацеля!..

У панядзелак выпусцілі Сашку з «клеткі», як называлі ізалятку. У калідоры спаткаў дырэктара, і мёртвым голасам паскардзіўся перад ім. Дырэктар выслухаў і вельмі усхваляваўся. Сказаў нават, што звольніць Сашкавага выхавацеля з працы. Усё ж не звольніў. Праўдападобна, кончылася толькі на вострай вымове. Такія хадзілі чуткі...

**КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ**

---

Пачатак у папярэднім нумары. Заканчэнне цыкла «Па той бок жыцця» за тыдзень.

 

# Кібернетыка ў космасе

## (АКАДЭМІК БЕРГ КАМЕНЦІРУЕ БЯСПРЫКЛАДНЫ ПАЛЁТ)

— Для пачатку я супаставіў бы дзве з'явы: амерыканскі праект «Вест - Форд» і сувязь, устаноўленую паміж «Усходам — 3» і «Усходам — 4». Каб даследаваць пашырэнне радыёхваль у іонасферы, вучоныя ЗША мелі намер выкінуць у космас металічныя іголкі і фальгу. Гэта было б свядомае і злачыннае засмечанне космасу, такі намер сведчыў не толькі аб пэўнай эгаістычнасці, але і аб прамой дыверсіі з мэтай парушэння радыёсувязі паміж краінамі свету.

Як і ядзерныя выпрабаванні ў верхніх слаях атмасферы, «Вест-Форд» нічога агульнага з навукай не меў. Як вядома, першая спроба выкінуць іголкі амерыканцам не ўдалася, ад далейшых пад уплывам прагрэсіўных вучоных свету яны пакуль адмовіліся.

Нас таксама вельмі цікавіць праблема пашырэння радыёхваль у космасе. Мы вырашаем яе, у прыватнасці, той сувяззю, якая была ўстаноўлена паміж двума караблямі на арбіце. Гэта — велізарны ўклад у навуку, які зроблен у поўнай адпаведнасці з самай строгай этыкай у справе асваення космасу.

Як бачыце, дзве розныя палітыкі, дзве лініі паводзін, дзве розныя маралі. Далейшага параўнання яны не патрабуюць.

Такім чынам, калі падводзіць вынікі, дасягненне нумар адзін — гэта сувязь паміж двума касмічнымі караблямі; сувязь, устаноўленая ўпершыню ў гісторыі.

Не менш здзіўляючы поспех — гэта тэлевізійная сувязь, устаноўленая паміж касманаўтамі і Зямлёй. Вы толькі мяркуйце: пры велізарнай скорасці, пры яшчэ больш значных перашкодах у атмасферы была наладжаная працяглая — я падкрэсліваю гэта — працяглая і вельмі якасная перадача адлюстравання. Мільёны людзей маглі бачыць твар і дзеянні чалавека, што знаходзіцца ў недаступным калісьці космасе.

Але над усімі іншымі дасягненнямі дамінуе, на мой погляд, вось што: здзіўляючая, ні з чым не параўнаная надзейнасць апаратуры .

Зноў закрану Злучаныя Штаты Амерыкі. Яны ніколі не дабіваліся і пакуль яўна не могуць дабіцца такой высокай надзейнасці механізмаў касмічнага карабля, якой дасягнулі мы. Я думаю, што гэта перш за ўсё тлумачыцца спешкай, іх непрыкрытым жаданнем дагнаць СССР у яго паспяховым уварванні ў космас.

«Усход—3» і «Усход—4» прадэманстравалі на працягу некалькіх сутак максімальную надзейнасць самай складанай, можна сказаць, вытанчанай апаратуры. І гэта надзейнасць сведчыць аб нашых велізарных магчымасцях і вялікай тэхнічнай культуры.

Вы пыталі аб ролі кібернетыкі ў гэтым грубым палёце. Я спытаю ў вас у сваю чаргу: а якая роля курыцы ў паяўленні знесенага ёю яйка?

Тут скрозь — кібернетыка. Ад узлёту і да пасадкі, ад разліку арбіты да медыцынскага кантролю. У наяўнасці ўсе элементы кібернетыкі: збор інфармацыі, перадача яе на Зямлю, выкарыстанне на месцы.

Трэба адзначыць, што касмічны палёт — адзін з найцяжэйшых франтоў ужывання кібернетыкі. Цяжкасць перш за ўсё ў аддаленні карабля ад вылічальных цэнтраў, якія кіруюць яго палётам.

Тут зноў жа праявілася здзіўляючая надзейнасць і дакладнасць апаратуры. Пры тэмпературы, блізкай да абсалютнага нуля за бортам карабля, у кабіне падтрымліваецца аэракандыцыя з дакладнасцю да 1 — 2 градусаў блізкай да пакаёвай тэмпературы. Паўтараю, ад узлёту да пасадкі карабель быў у царстве кібернетыкі.

Мне асабліва хочацца падкрэсліць стойкасць і мужнасць бравых савецкіх пілотаў. Памнажэнне віткоў ад аднаго і семнаццаці да некалькіх дзесяткаў — гэта не колькасны рост. Тут колькасць пераходзіць у якасць. Мы перайшлі праз глыбокі і прынцыповы рубеж.

З палёту сцёрты характар эпізода. Парны рэйс двух «Усходаў» ператвараецца ў сістэматычную навуковую работу, якая з прычыны сваёй працягласці дазваляе метадам матэматычнай статыстыкі адабраць з выпадковасцей заканамернасці.

Магчымасць актыўнага ўзаемадзеяння двух (а значыць, і некалькіх) касмічных караблёў, узаемнае кіраванне і каардынаванне дзеянняў дасць магчымасць нам з часам распачаць мантаж штучных касмічных абсерваторый і стартавых пляцовак для запуску міжпланетных караблёў. Можна меркаваць, што недалёкі час, калі ў космас будуць падымацца цэлыя эскадрыллі пілатуемых чалавекам караблёў — цэлыя экспедыцыі, што асвойваюць прастору Сусвету.

Апошнія палёты рэзка расшырылі творчыя магчымасці касманаўтаў. Мы прайшлі ўвесь шлях ад паддоследных мышэй і сабак да свядомага і творчага ўварвання мыслячага і актыўнага чалавека ў космас.

**ВІКТАР БУХАНАЎ**
**карэспандэнт агенцтва друку Навіны.**

# МОДА



На фоне гор Цэнтральнага Паміра яркай плямай выдзяляецца гэтая вечназялёная арча — дрэва з сямейства кіпарысавых. Арча, якая расце ў горных раёнах, умацоўвае склоны гор і супрацьдзейнічае абсоўванню іх.

# Тыражом болш 11 мільёнаў

Румынія па ацэнцы ЮНЕСКО займае адно з першых месц у свеце па перакладах твораў сусветнай літаратуры. За апошнія 10 год румынскія выдавецтвы выпусцілі ў перакладзе звыш 9 тысяч назваў кніг агульным тыражом прыкладна ў 11.300 тысяч экземпляраў.

# Рэплантацыя зубоў

У Ленінградскай стаматалагічнай паліклініцы Дзяржынскага раёна паспяхова ўжываецца так званая рэплантацыя зубоў. Гэта аперацыя заключаецца ў наступным. Хворы зуб вырываюць, затым ачышчаюць каналы, пламбіруюць і ўстаўляюць у лунку, на ранейшае месца. Усё гэта цягнецца менш паўгадзіны. Вылечаны зуб прыжываецца на працягу 2—3 тыдняў, а потым верна служыць, ніколі не прычыняючы болю.

Рэплантацыя зубоў — справа не складаная. Доследы ў гэтым напрамку праводзіліся і раней, але канчаліся няўдачамі з прычыны неадпаведнай апрацоўкі адкрытых лунак і вырваных зубоў. Распрацоўка аператыўнага цыкла рэплантацыі зубоў належыць В. Л. Казлову, асістэнту Дзяржаўнага інстытута ўдасканалення ўрачоў. У паліклініцы рэплантавана ўжо 500 зубоў і ўсе яны добра прыжыліся.

# Сасна вырастае за 10 гадоў

Многія дзесяцігоддзі патрэбны, перш чым маленькая хваінка ператворыцца ў магутнае і цудоўнае дрэва. На зямлі змяняюцца пакаленні, пакуль вырастае «мачтавы» бор.

А каштоўная драўніна патрэбна ўжо цяпер. Ці нельга прымусіць сасну расці хутчэй? Дзесяць гадоў назад кітайскі селянін-лесавод Чжоу Шэн-Ван заклаў участак сасновага лесу, маючы на мэце вырасціць сасну паскораным метадам.

Эксперыментальна ім было ўстаноўлена, што ў паскарэнні росту дрэў добрую ролю адыгрываюць злакі і травяныя сумесі, высеяныя паміж дрэвамі. Таленавіты лесавод стварыў найбольш рацыянальную сумесь насення, падабраў адпаведную шырыню міжрадкоўяў. І вось праз 10 гадоў дрэвы дасягнулі таўшчыні (на ўзроўні грудзей дарослага чалавека) 20 сантыметраў, гэта значыць, стандарту дзелавой драўніны.

**ПАРАДЫ ГАСПАДЫНЯМ**

# АКРОШКА

Для прыгатавання смачнай апетытнай акрошкі зварыце нятлустую ялавічыну, астудзіце яе і нарэжце дробнымі кубікамі. Свежыя агуркі (у агуркоў з грубай скуркай або жоўтых трэба зняць скурку) таксама нарэжце дробнымі кубікамі. Добра прамытую зялёную цыбулю дробна нашаткуйце, дадайце крыху солі і расцірайце да таго часу, пакуль не паявіцца сок. Яйкі зварыце ўкрутую, бялкі пасячыце, жаўткі пратрыце праз сіта, дадайце гарчыцу, соль і старанна разатрыце. Пакладзіце смятану, цукровы пясок, размяшайце і развядзіце квасам. Пакладзіце ялавічыну, нарэзаную кубікамі, агуркі, цыбулю, насечаныя яечныя бялкі і зноў перамяшайце. Пры падачы на стол акрошку пасыпце дробна нарэзаным кропам. Падаюць акрошку астуджанай да 8—12°.




Даўно мне ўжо падабаецца Марыся. І цяпер, калі я ўжо адбыў вайсковую службу, хацеў бы з ёю ажаніцца. Жаніцца мне яшчэ рана, але памерла маці, бацька інвалід і няма каму рабіць на гаспадарцы. Але вось адна перашкода. Марыся, хаця і прыгожая, але ў вёсцы ўсе з яе смяюцца, а нават і мне ўвочы гавораць, што такая «развыдраная панюся», то не для мяне жонка. А вось у чым справа. Марыся апранаецца так, як у горадзе, фарбуе валасы, а што найгорш — курыць, чаго на вёсцы не спатыкаецца. А я мужчына і то не куру. Я моцна Марысю кахаю і таму проста баюся аб гэтым пагаварыць з ёю, хаця мне гэта страшэнна не падабаецца. І што тут рабіць, ці пакінуць Марысю, ці міма ўсяго ажаніцца з ёю? (Марыся згаджаецца быць маёй жонкай). Вельмі цябе прашу, парай мне, Сэрцайка.

**Вася**
з Гайнаўскага павета

**Дарагі Вася!**

Як відаць з Твайго лісту, Марыся больш сучасная дзяўчына і таму так моцна адрозніваецца ад сваіх вясковых сяброўак. Гэта добра, што яна апранаецца па-гарадскому, па модзе і з густам. Так і павінна быць. Дзяўчаты вясковыя не павінны нічым адрозніваецца ад гарадскіх. Бяда вось у тым, што Марыся курыць, што без застанаўлення нішчыць свой прыгожы малады выгляд твару. Каб лепш пераканаць яе, вазьмі выбраныя табою артыкулы, вывады лекараў і т. п. аб шкоднасці курэння, а ў асаблівасці для жанчын (аб гэтым так многа пішацца, што не будзеш мець клопату з падшуканнем матэрыялу) і супольна ўважліва пачытайце, падыскутуйце. Яна ж, калі згаджаецца быць тваёй жонкай, безумоўна будзе і маткай, а цяжарным і кормячым жанчынам катэгарычна забараняецца курыць. Напэўна, калі не ў цэласці, то ў большай частцы яна зразумее цябе. І калі не кіне зусім, дык будзе напэўна значна менш курыць. А калі вы пажэніцеся і Марыся будзе маткай, дык напэўна пакіне курэнне. А на плёткі людзей не зварочвай увагі. Жадаем поспехаў!

**Сэрцайка**



 

# Трыбуна чытачоў

## Зварот міліцыі да бацькоў і выхаваўцаў

У сувязі з пачаткам навучальнага года, калі кожную раніцу мільёны дзяцей накіроўваюцца ў школы, інспектарат руху на дарогах пры грамадзянскай міліцыі звяртаецца да ўсіх дзяцей, бацькоў і выхаваўцаў, каб мелі на ўвазе небяспеку на дарогах.

Не раз ужо дзеці былі ахвярамі няшчасных выпадкаў. У мінулым годзе загінула на дарогах 482 дзяцей, каля 3630 было раненых. Усё гэта вынік недастатковай апекі і нагляду з боку бацькоў і выхаваўцаў.

Таму міліцыя звяртаецца да бацькоў:

Вучыце дзяцей пераходзіць вуліцу. Часцей гаварыце дзецям аб неабходнасці прытрымлівацца правіл руху на вуліцы.

Кожнае дзіця павінна ведаць, што для пешаходаў ёсць тратуары, а дарога — для машын, што пераходзіць вуліцу можна толькі ў вызначаных месцах пераходаў.

Пры пераходзе вуліцы трэба паглядзець у левы бок, потым — у правы і яшчэ раз у левы, каб пераканацца, што дарога вольная.

Дзеці не павінны быць ахвярамі выпадкаў на дарогах. Гэта супольнае жаданне бацькоў і грамадскасці. У рэалізацыі гэтага дапамагае таксама маладзёжная служба руху, якая налічвае каля 60 тысяч хлапцоў і дзяўчат. Калі спаткаеце іх у час работы, дапамажыце ім. Сярод дзяцей не павінна быць калек і няшчасных, грамадства павінна запэўніць дзецям шчаслівае дзяцінства.

## ПАТРЭБНЫ МОСТ

500 метраў ад нашай вёскі Навіны (Гайнаўскі павет) цячэ палявы ручай. Тут багністае месца, цяжка праехаць возам, веласіпедам, а нават прайсці пешшу. Тут неабходны мост. Тым больш, што гэта трактавая дарога, па якой людзі едуць у Гайнаўку. Варта, каб і нехта з дарожнага аддзела прэзідыума павятовай рады праехаўся па гэтай дарозе. Запрашаем.

**Зіна Ялінік**
Навіны

## ПАРАДКІ У ШКОЛЕ

У вёсцы Старое Ляўкова (Гайнаўскі павет) школа змяшчаецца ў двух будынках. Адзін з гэтых будынкаў патрабаваў рамонту. І ён быў паспяхова закончаны перад новым навучальным годам. Таксама ўсе старыя школьныя парты заменены новымі. У чыстых і светлых класах пачалі свой новы навучальны год ляўкоўскія вучні.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## Чакаем новую краму

Вёска Койлы знаходзіцца ў Гайнаўскім павеце і налічвае 120 гаспадароў. Попыт на тавары вялікі ,а крама ў нас маленькая, не ў стане задаволіць усе патрабаванні гаспадароў. Жыхары вёскі вырашылі пабудаваць новую краму. Кожны з гаспадароў прывёз па фуры жвіру і камення, прыйшла і дзяржава з дапамогай, і неўзабаве пачнецца будова. Жыхары вёскі з нецярплівасцю чакаюць новую краму.

**Люба Плева**
Койлы

## Каб выдатна Пятрок вучыўся...

(Працяг са стар. 4)

тыцыйныя намаганні далёка не пакрываюць сапраўдных патрэб.

Што ж рабіць?

Найбольш проста звярнуцца да адпаведных улад і ўсімі спосабамі ціснуць іх, каб павялічылі так званыя інвестыцыйныя ліміты. Гэта найпрасцейшы спосаб. І людзі ў нас да таго прывыклі так бачыць вырашэнне школьных клопатаў, што з праўдзівым здзіўленнем адкрываюць вочы, калі паказаць ім **нерэчаіснасць** гэтага простага спосабу.

Дзяржава школьнае будаўніцтва змяшчае ў ліку найбольш пільных сваіх патрэб. Аднак тое, што дае, з'яўляецца максімумам інвестыцыйных магчымасцей. Але патрэб, пільных патрэб таксама бясконца адкладаць нельга, бо яны, як школа ў Рагачах, урэшце могуць рухнуць на галавы вучняў. Астаецца адзіны выхад. Гэта зразуменне, падтрымка і ахвярнасць цэлай грамадскасці, актыўны удзел кожнага грамадзяніна ў пабудове новых школ. Але...

Вось тут найбольш балюча праяўляецца гэтае ўпартае «але».

Сямяціцкі павет па зборы складчын на фонд пабудовы школ займае васемнаццатае месца ў ваяводстве. Гэта не найлепш сведчыць аб ахвярнасці і зразуменні грамадзян, пражываючых у тым раёне Беласточчыны.

Ужо чую адказ зацікаўленых: столькі зараз розных складчын! Адкуль на ўсё узяць грошы?

Так, гэта праўда, але... але адкуль **бяруцца грошы на гарэлку?** Напрыклад, у мінулым годзе продана на тэрыторыі Сямяціцкага павета звыш 250 тыс. літраў чыстага спірта і каля 160 тыс. літраў віна. Такім чынам у гэтай «горкай вадзе» жыхары Сямяціцкага павета ўтапілі каля 50 мільёнаў злотых. Ужо за палавіну гэтай сумы можна было б пабудаваць звыш 15 прасторных, мураваных, васьмікласных школьных будынкаў...

Не маю намеру намаўляць ані жыхароў Сямяціцкага павету, ані нікога другога да алкагольнай чысціні, але... але, каб Пятрок, Пятрок Твой, суседаў ды кожны выдатна вучыўся, трэба замест выдаць грошы на гарэлку, хаця нейкую іх частку больш шчырай рукой злажыць на фонд пабудовы школ.

**ВІКТАР РУДЧЫК**



**ПРАГРАМА**
**на 17 — 23.IX.1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Lunatyk" (franc.), 18—20. „Długa noc 1943" (włoski), 21—23.

**Навасады**
„Kwiecień" (polski), 22—23.

**Нараў**
„Trzy kobiety" (polski), 19—23.

**Нараўка**
„Dziś w nocy umrze miasto" (polski), 19—23.

**Чаромуха**
„Przeciwnicy" (węgierski), 18—20. „Mezalians" (węgierski), 21—23.

**Чыжы**
„Czas przeszły" (polski), 19—23.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Zuzanna i chłopcy" (polski), 19—23.

**Бранск**
„Wszędzie żyją ludzie" (czeski), 18—20. „Poławiacze gąbek" (radz.), 21—23.

**Гродзіск**
„Czas przeszły (polski), 22—23.

**Орля**
„Drugi człowiek" (polski), 19—23.

**Райск**
„Dziś w nocy umrze miasto" (polski), 19—23.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Przeciwnicy" (węgierski), 18—20. „Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 21—23.

**Міхалова**
„Profesor Malmock" (NRD), 18—20. „Majowe gwiazdy" (czeski), 21—23.

**Супрасль**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 18—20. „Ten który wrócił" (radz.), 21—23.

**Чорна Беластоцкая**
„Śladami Ikara" (radz.), 18—20. „Uśmiech nocy" (szwedzki), 21—23.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Wielki balet w Ameryce" (radz.), 18—20. „Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 21—23.

**Нурэц**
„Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), 18—20. „Żebro Adama" (USA), 21—23.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Z soboty na niedzielę" (angielski), 18—20. „Liga dżentelmenów" (agnl.), 21—23.

**Сухаволя**
„Światła na biegunie" (radz.), 18—20. „Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 21—23.

**Шудзялава**
„Miliony gwiazd" (polski), 19—23.

**Янаў**
„Człowiek z za biurka" (włoski), 18—20. „Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 21—23.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Nafta" (polski), 22—23.

**Ружаны Сток**
„Wyrok" (polski), 22—23.

У днях 17 — 23.IX. у мясцовасцях Мілейчыцы, Кляшчэлі і Новы Двор фільмы высвятляцца не будуць.


**Ніва**

**Adres redakcji:** Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
**Telefony:** red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
**Warunki prenumeraty:** miesięcznie — 2,40 zł. kwartalnie — 7,20 zł. półrocznie — 14,40 zł. rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Błtk F-3


(Працяг са стар. 3)

ідаваць, арганізаваўшы аўтамабільную катастрофу. Але гэта паставіла Мілера ў яшчэ большую залежнасць ад Гольдрынга. Пачуўшы расказ пра аварыю, ён, усміхнуўшыся, кінуў:

— Вось калі Пфайфер памрэ, тады, апрача мяне, ніхто не пазнае ў партызанскім камандзіры Поля Шанье.

Было над чым сушыць мазгі!

І Мілер сушыў іх нездарма. І знайшоў выйсце. Ён сеў за стол і пачаў пісаць пісьмо Бертгольду. У ім ён паведамляў генерала аб адносінах Генрыха да Монікі і прасіў указанняў.

* ✲ *

10-га ліпеня радыё паведаміла, што «нашы часці вядуць зацятыя баі з атакуючым праціўнікам».

Еверсу стала ясна: грандыёзная, шырока рэкламаваная аперацыя правалілася! На другі дзень ён выслаў камандуючаму корпусу тэлеграму, у якой, спасылаючыся на вельмі дрэнны стан здароўя, прасіў даць яму тыднёвы водпуск для паездкі ў Парыж, каб параіцца там з лекарамі. На трэці дзень ён паклікаў Генрыха і загадаў рыхтавацца ў дарогу.

«Вось і наступіў час разлукі з Монікай!» — з сумам думаў Генрых, седзячы каля стала Лютца, які рыхтаваў яму патрэбныя паперы.

199

* ✲ *

Мілер яшчэ снедаў, калі Гольдрынг зайшоў да яго развітацца.

— Майн гот, такі ранні і такі дарагі госць! Што прывяло вас у такі час да мяне?

— Сёння я разам з генералам еду ў Парыж.

— І доўга вы там прабудзеце?

— Два тыдні... І ў мяне да вас невялічкая справа. Я хачу быць упэўненым, што ваша зацікаўленасць мадэмуазель Монікай абмяжуецца звычайнымі прывітаннямі на вуліцы. Вы мяне зразумелі, Мілер?

— Абсалютна!

— Вось і цудоўна! Спадзяюся, вы прыдзеце на вакзал праводзіць калі не мяне, дык генерала?

— Калі не генерала, дык вас напэўна, — паправіў Мілер.

Ён датрымаў слова. Перад чацвёртай начальнік штаба, Мілер і Кубіс былі на пероне. Як у час кожных афіцыйных паводзін, усе нудзіліся. Толькі адзін Мілер быў надзвычай вясёлы.

— Я вас, Ганс, такім вясёлым ніколі не бачыў! — кінуў яму на развітанне Генрых. Вясёласць Мілера яго занепакоіла.

— Я рады за сябра, якому выпала такое цудоўнае падарожжа, — адказаў Мілер.

Не мог жа ён сказаць Генрыху, што сапраўдная прычына яго вясёлага настрою — невялікі шыфраваны ліст ад самога Бертгольда, напісаны ў адказ на ліст Мілера адносна Монікі.

200

Генрых вырашыў не заходзіць у вагон, каб яшчэ раз глянуць на горад, дзе ён столькі перажыў.

Калі поезд мінуў апошнюю будку, Генрых нечакана ўбачыў Моніку. Яна стаяла ў белай сукенцы, уся ў яскравым сонечным святле.

— Моніка! — крыкнуў Генрых.

Дзяўчына падбегла да вагона і кінула Генрыху букет кветак.

Поезд паволі набіраў хуткасць, і Генрых перахіліўся з пляцоўкі вагона так, каб як найдаўжэй бачыць дзяўчыну.

Яна усё таксама стаяла побач чыгункі, залітая залатаватым святлом, сама падобная на ясны сонечны прамень...

У Парыж прыбылі на трэці дзень раніцай. Генрых паехаў на цэнтральны тэлеграф. Там чакала яго тэлеграма. Ён перачытваў яе раз, другі, трэці... Не, гэта не памылка, гэта не здалося, гэта сапраўды напісана!

«Тры гадзіны пасля вашага ад'езду невядомая машына збіла на дарозе мадэмуазель Моніку якая не прыходзячы да памяці памерла таго ж вечара падрабязнасці лістам. Палажу вянок вашага імя Кубіс».

(Працяг за тыдзень)

201


Сход.




### ВЫКУПАЕЦЦА

— Мама, я выкупаюся ў рэчцы.
— Халодная вада, сынок.
— Дык я буду ў паліто купацца.

Прыслала **Галіна Сарачынская**

* * *

### ХІТРЫ

— Янка, хадзі бульбу капаць.
— Не пайду, зубы баляць.
— Ну, дык я пайду ў краму.
— Цукерак купі.

Прыслаў **Янка Здаeconоўскі**

* * *

### ВЯЛІКАЯ РОЗНІЦА

Настаўнік: — Якая розніца паміж маланкай і электраэнергіяй?

Вучань: — За маланку не трэба плаціць.

Прыслаў **Янка Данільчук**

* * *

### У ГАСЦЯХ

Гаспадыня частуе госця піражкамі. Той, з'еўшы пару штук, бароніцца:

— Вельмі дзякую, я ўжо тры з'еў.

—Гаворачы праўду, то вы з'елі пяць, але нічога, вазьміце яшчэ адзін, — кажа гаспадыня.

Прыслаў **П. Гайдук**



— Як табе смакуе, мілы?




### МАМА АБУРАЕЦЦА

У сад суседкі
лез хлапчук
і разарваў штаны
аб сук.
Прыбегла да суседа
мама
і на ўсю вёску ўзняла
лямант:
— Ты дрэнны гаспадар,
Пракоп —
Не мог на плоце
ссеч сукоў!

**Іван МУРАВЕЙКА**

### АСНОЎНАЕ

Цесць да зяця: — Вось табе, дарагі зяць, пасаг — дзесяць тысяч злотых, але пакляніся, што наша Анечка будзе з табою шчаслівая.

Зяць: — Зараз, зараз, грошы пералічу!

Прыслаў **Юрка Скепка**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ірыны Кур'яновіч і Марыі Раеўскай з Бельска, а таксама Ніны Данілюк з Асоўкі, Гайнаўскага павета, змяшчаем сучасную папулярную савецкую песню касманаўтаў.

## Я ВЕРЮ, ДРУЗЬЯ...

*Слова В. ВОЯНОВИЧА*
*Музыка О. ФЕЛЬЦМАНА*




Заправлены в планшеты
Космические карты,
И штурман уточняет
В последний раз маршрут.
Давайте-ка, ребята,
Закурим перед стартом,
У нас еще в запасе
Четырнадцать минут.

Припев:
Я верю, друзья, караваны ракет
Помчат нас вперед от звезды
до звезды.
На пыльных тропинках далеких
планет
Останутся наши следы.

Когда-нибудь с годами,
Припомним мы с друзьями,
Как по дорогам звездным
Вели мы первый путь.
Как первыми сумели
Достичь заветной цели
И на родную землю
Со стороны взглянуть.

Припев:

Давно нас ожидают
Далёкие планеты,
Холодные планеты,
Безмолвные поля.
Но ни одна планета
Не ждет нас так, как эта,
Планета дорогая
По имени Земля.

Припев:
Я верю, друзья, караваны ракет
Помчат нас вперед от звезды
до звезды.
На пыльных тропинках далеких
планет
Останутся наши следы.


— Зямля! Зямля!

## ВЕРУЮЧАЯ

Голас царкоўнага звона трапятаў над хатамі, нёсся ўздоўж вясковай вуліцы, заклікаючы да вячэрняй малітвы.

Глікерыя, сціснуўшы губы ў трубачку, перахрысцілася і прашаптала: «Оспадзі, людзі ў царкву спяшаюць, а я, бяссільная, астаюся на Тваю апеку».

Затым, паслюніўшы аловак, яна ўзялася за адложаную пісаніну: «Хоць знаходжуся я не ля спраў грамадскіх, але па свядомасці з'яўляюся паўнавартаснай грамадзянкай ўсенароднага края. Мае сумленныя вочы не могуць глядзець на цёмныя асобы, якія прымазаліся да дэмакратычнай кааперацыі. У тэкстыльным гэсе Таісія, па пашпарту паненка, а па грамадскім становішчы — каханка галоўнага бухгалтара, справіла заечы каўнер. Паклапаціцеся зрабіць праверку ў магазіне і тады выйдзе на свет не толькі заечы каўнер, але і чырвоныя туфлі на шпільках, нейлонавая хустка і жоўтая сумачка, якою Таісія бясстыдна памахвае. Баючыся заступнікаў зладзейкі, падпісваюся «Сапраўдная Грамадзянка».

Адкінуўшыся на крэсле, Глікерыя схапілася рукою за рэўматычную паясніцу, затым адкрыла «Беларускі калядар», паглядзела на свае нататкі і ўзялася зноў пісаць:

«Дарагая мая Матронушка, ты не ведаеш, колькі слёз праліла я над тваім лёсам гаротным. Бабы нашы, бы гадзюкі падкалодныя, адна адну грызуць і імя не пытаюць. Адна з такіх і тваё шчасце засмуціла. Прычаравала мужыка твайго Ірка — бессаромніца. Як твайго вечарам не будзе ў хаце, ты, мая лапачка, ідзі да пісьманосца. У гэту пору ён ездзіць на станцыю за поштай і ты ў яго застанеш свайго мужа з Іркай, пісьманосцавай жонкай. Ты, Матронушка, пакрапі Ірку не святой вадой, а сернай кіслатой, за валасы яе падзёргай, вымажы вароты дзёгцем. Твая сяброўка».

Уздыхнуўшы, бы ад цяжкай працы, Глікерыя прашаптала:

— Яшчэ аб Макару трэба напісаць, у яго ў магазіне пратэрмінавана праверка гір. Ды гэта зраблю ўжо заўтра.

Затым твар Глікерыі азарыўся шырокай ўсмешкай: «Пачакайце, галубчыкі, усіх вас выведу на чыстую воду. Калі трэба будзе, у павет напішу, да ваяводства дайду, да сталіцы дабяруся. Новую вёску будуеце? Тожа мне будаўнічыя знайшліся. Царкоўны стараста, падвыпіўшы, свечкі прадаваў. Аб гэтым архірэю напішу.»

Заклеіўшы канверт, Глікерыя паклікала ялейным голасам:

— Міхась, Міхасёк, збегай на пошту, кінь у скрынку пісьмо. Ножкі ў цябе маладыя, а я, пакутніца, гарачы пясок прылажу да паясніцы.

У вокны хаты дабівалася незразумелая гутарка і прыглушаныя крокі. Гэта людзі вярталіся з вячэрні.

Ноччу Глікерыі сніўся архангел Гаўрыіл. Схіліўшыся над ложкам, ён распасцёр крылы і выразна сказаў:

— Любі бліжняга, як самога сябе.

— О, прападобны, ці ж я не стараюся сеяць добрае семя, ці ж я не адкрываю сэрцы і вочы бліжнім, — прашаптала Глікерыя праз сон і ад расчулення з-пад яе вялай шчацэ скацілася цёплая сляза.

Што ж, мілыя чытачы, трапляюцца сярод нас людзі, якія з малітвай на губах дагаджаюць д'яблу.

*Дзядзька Лявон*